# Еўрапейцы прыедуць, каб разабрацца на месцы

*24 — 25 кастрычніка Мінск наведае дэлегацыя Савета Еўропы на чале са старшынёй парламенцкай асамблеі Лені Фішар*

Гэты факт можна лічыць асноўным вынікам паездкі групы беларускіх парламентарыяў у Страсбург. Як ужо паведамлялася, падчас гэтага візіту беларуская дэлегацыя падзялілася на два лагеры, кожны з якіх па-свойму бачыў метады, якія трэба выкарыстоўваць для ўваходжання Беларусі ў Савет Еўропы. Анатоль Лябедзька і Пётр Краўчанка ўвязвалі магчымае ўступленне Беларусі з унутранай сітуацыяй у нашай краіне, заяўляючы, што тэмпы разгляду гэтай працэдуры павінны залежаць ад дэмакратычных пераўтварэнняў і захавання правоў чалавека ў нашай краіне.

У сваю чаргу Юры Малумаў, Сяргей Калякін і прадстаўнік фракцыі аграрыяў Вячаслаў Шаршуноў адстойвалі прынцыпова процілеглую пазіцыю. Як падкрэсліў Калякін на прэс-канферэнцыі ў сераду, інфармацыя, з якой выступілі Лябедзька і Краўчанка, можа прынесці толькі шкоду Беларусі, бо затармозіць нашае ўступленне ў Савет Еўропы. Аднак, па перакананні Лябедзькі, менавіта дзякуючы адкрытасці і праўдзівай інфармацыі ўдалося стварыць абстаноўку даверу і інтарэсу да нашай краіны. А Пётр Краўчанка падкрэсліў, што іхняя інфармацыя пра сітуацыю ў Беларусі не была вялікім адкрыццём для кіраўніцтва парламенцкай асамблеі. У выніку Камітэт СЕ па сувязях з краінамі — не членамі Савета Еўропы прыняў даволі рэзкую рэзалюцыю аб сітуацыі ў Беларусі. Калякін, Малумаў і Шаршуноў выказалі пратэст супраць дзеянняў Камітэта.

У адным пытанні, аднак, Лябедзьку і Краўчанку ўдалося кансалідавацца з Калякіным — гэтыя тры дэпутаты падпісалі просьбу да адпаведных камісіяў Еўрапарламенту аб правядзенні юрыдычнай экспертызы прэзідэнцкага праекту канстытуцыі. Дарэчы, журналісты вельмі прасілі кіраўніка дэлегацыі Юрыя Малумава даць ім тэкст англамоўнага перакладу канстытуцыі, які Малумаў перадаў у Савет Еўропы. Ёсць звесткі, нібыта гэты варыянт значна адрозніваецца ад апублікаванага ў беларускай прэсе.

Зрэшты, дэлегацыя са Страсбурга на чале з Лені Фішар зможа самастойна разабрацца ў сітуацыі ў Беларусі. Яны прыедуць у Мінск акурат праз некалькі дзён пасля лукашэнкаўскага «ўсенароднага сходу».

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## КАДРЫ Аграрыі думаюць

На здымку:
*Сямён Шарэцкі з лідэрам Аграрнай партыі Мечыславам Гіруцем.*



# Смаргонь страціла мэра

**Мэр Смаргоні Ілья Рак звольніўся па ўласным жаданні, а ягонага намесніка Генадзя Сафронава звольнілі абласныя ўлады.**

Рэч ў тым, што сп.Рак выдзеліў свайму намесніку двухпакаёвую кватэру, якую той займаў, не маючы ордэра. Дагэтуль сп.Сафронаў жыў у інтэрнаце, але разам з тым меў новы катэдж. Спасылкі гаспадара на тое, што ў доме пакуль немагчыма жыць (не падведзеныя камунікацыі), былі прызнаныя ўладамі надуманымі. Карацей, у любым разе права на двухпакаёвую кватэру гэты чыноўнік не меў.

Цікава, што пры такіх жыллёвых апетытах сп.Сафронаў, з'яўляецца халасцяком і яму па законе дастаткова 8 кв.м. Звольнены са службы чыноўнік аднак не разгубіўся і зноў уладкаваўся дырэктарам школы, якой кіраваў да працы ў гарвыканкаме.

**С.А.**

# Ганчар – Пракуратура: перапіска працягваецца

*Сфармаваныя паралельныя камісіі для правядзення рэферэндуму*

1 кастрычніка, падчас нарады ў ВС, старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар заявіў, што ў абласцях і раёнах створаныя альтэрнатыўныя выбарчыя камісіі для правядзення рэферэндуму. Нагадаем, што паводле заканадаўства толькі ЦВК дае права займацца падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў і рэферэндумаў.

*«Пакуль я не лічу гэта нейкім наўмысным дзеяннем,* — патлумачыў Ганчар. — *Здаецца, у рэгіёнах проста хацелі адрапартаваць раней тэрміну. У акругах, дзе дэпутаты яшчэ не выбраныя, дзейнічаюць участковыя камісіі. Аднак мясцовыя ўлады, мабыць, спадзеючыся, што ніякіх выбараў не будзе, стварылі паралельна і камісіі для правядзення рэферэндуму. Цяпер мы рассылаем адпаведныя лісты старшыням аблвыканкамаў, аблсаветаў і абласным пракурорам, каб сітуацыя была выпраўленая. Я не бачу тут нейкага наўмыснага стварэння незаконных структур — гэта проста вынік нейкай бязглуздзіцы, якая часта характарызуе планавыя мерапрыемствы».*

Няшмат болей яснасці з мясцовымі выбарамі ў некаторых рэгіёнах, аднак «яснасць» гэтая са знакам мінус. Гродзенская і магілёўская абласныя выбарчыя камісіі адмянілі свае раней-шыя рашэнні аб правядзенні давыбараў у мясцовыя Саветы. Цэнтрвыбаркам не мае ніякіх законных падставаў паўплываць на такое рашэнне.

Тым часам міністэрства фінансаў працягвае ігнараванне Закона, не выдзяляючы грошы на правядзенне выбараў і рэферэндуму. Папярэджанне Пракуратуры ў адрас міністра фінансаў П.Дзіка было вынесенае 20 верасня, так што ўжо прайшоў 10-дзённы тэрмін, вызначаны заканадаўствам для «выпраўлення». Цяпер Пракуратура абавязаная прыняць захады адміністратыўнага або крымінальнага характару.

Акрамя таго, заўтра, 5 кастрычніка, заканчваецца тэрмін, у які Пракуратура павінна завяршыць праверку законнасці пералічэння сродкаў на так званы рахунак «Рэферэндум-96». Тым часам грошы працягваюць паступаць, і на 1 кастрычніка на гэтым спецрахунку налічвалася 3 млрд. 276 млн. рублёў, пра што паведаміў намеснік міністра фінансаў І.Заяш. Між тым, як памятаем, старшыня Нацбанка Тамара Віннікава дала тлумачэнні, што ніякага спецрахунку не існуе, а грошы ў сапраўднасці паступаюць у даходную частку бюджэту. На думку старшыні Цэнтрвыбаркама В.Ганчара, *«незаконнасць адкрыцця гэтага рахунку і пералічэння грашовых сродкаў на гэты рахунак відавочная, і гэтыя так званыя добраахвотныя ўзносы давядзецца вяртаць тым арганізацыям і асобам, якія іх пералічвалі».*

**Алесь ГАНКОВІЧ**

# У Гродне – новы «самагубца»

**У Гродне адбылася сесія гарадскога Савета. Задача ў яе была адна — вызваліць з пасады мэра горада Генрыха Крупенку.**

Уласна кажучы, дэпутатам прапанавалася толькі зацвердзіць адпаведнае распараджэнне аблвыканкама, якое з'явілася пасля ўказа прэзідэнта. У дэпутатаў такая катэгарычная пастаноўка пытання выклікала законнае абурэнне. Як вядома, Г.Крупенка быў «зняты» прэзідэнцкім указам ад 3 верасня, а адпаведнае распараджэнне аблвыканкама аб яго звальненні выйшла толькі праз тыдзень — 9 верасня. Аднак паводле закона аб мясцовым самакіраванні павінна было быць наадварот: абласныя ўлады здымаюць мэра, а прэзідэнт зацвярджае іхняе рашэнне. Такім чынам, канстатавалі дэпутаты гарсавета, А.Лукашэнка сваім указам парушыў закон.

Распараджэнне аблвыканкама разам з прэзідэнцкім указам пры галасаванні зацверджаныя не былі. Дэпутаты прынялі сваё рашэнне: вызваліць сп.Крупенку з пасады мэра па *асабістым жаданні.* (Нагадаем, што прэзідэнт яго звольніў па артыкуле — за парушэнне службовых абавязкаў). Дарэчы, дэпутаты прапанавалі Г.Крупенку застацца, аднак ён заявіў, што не жадае больш працаваць «у гэтай камандзе».

Прычынай для звальнення сп.Крупенкі паслужыла стварэнне ў Гродне ліцэя №1, які перад пачаткам навучальнага года невядома чаму правяраў Савет бяспекі. Вынікі праверкі не былі вядомыя нават старшыні аблвыканкама А.Дубко. Як ён сам прызнаўся на сесіі, прычына для адстаўкі Крупенкі была зусім нязначная. Усё парушэнне было ў тым, што кепска праводзілася агітацыя сярод бацькоў. Між іншым, А.Дубко сказаў, што прапануе Крупенку на выбар цэлых пяць пасадаў.

Новым мэрам Гродна стаў Анатоль Пашкевіч, які дагэтуль займаў пасаду намесніка старшыні аблвыканкама па будаўніцтве, транспарту і сувязі. Дэпутатам ён сказаў, што толькі падзякуе, калі яны яго *не выберуць.* Бо, па вялікім рахунку, у цяперашняй палітычнай і эканамічнай сітуацыі, а тым больш напярэдадні зімы, на пасаду мэра можа пагадзіцца хіба што самагубца. Але ж пагадзіўся...

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Зачыняюць дзверы перад дэпутатам

**Астравецкі раён ў беларускім парламенце прадстаўляе Іван Свірыд, якога мясцовае начальства ад нядаўняга часу вельмі не любіць.**

Прыехаў ён днямі каб выступіць на сесіі райсавета, але слова яму не далі. Панёс тады дэпутат Вярхоўнага Савета тэкст сваёй прамовы ў рэдакцыю раёнкі, але там таксама яму адмовілі. Тады сп.Свірыд вырашыў хаця б выступіць перад сваімі выбаршчыкамі, дамовіўся зрабіць гэта ў астравецкім кінатэатры. Аднак зала аказалася зачыненай і даваліся яму выступаць, нібы на мітынгу, з ганку кінатэатра.

І.Свірыд — член Аграрнай партыі, з'яўляецца намеснікам старшыні парламенцкай камісіі і, здавалася б, мае перад вертыкаллю поўнае «алібі». Аднак не так даўно ён меў неасцярожнасць выступіць у дэмакратычным духу на сесіі Гродзенскага абласнога Савета, пасля чаго вертыкальшчыкі сталі называць яго «бэнэфаўцам» і пачалі чыніць яму ўсялякія перашкоды.

**С.М.**

# Шыманскі трымаецца

Нягледзячы на прынятую Вярхоўным Саветам пастанову аб тым, што з 1 кастрычніка пасаду галоўнага рэдактара «Народнай газеты» павінен заняць прызначаны парламентам дэпутат Леанід Юнчык, прадстаўленне новага шэфа супрацоўнікам не адбылося.

Старшыня парламенцкай падкамісіі па СМІ А.Дабравольскі звязаўся па тэлефоне з М.Шыманскім, які ўзначаліў «НГ» у адпаведнасці з прэзідэнцкім указам. На просьбу сабраць калектыў, каб прадставіць новага рэдактара, Шыманскі катэгарычна адказаў, што ён кіруецца ўказамі прэзідэнта і не намераны выконваць пастановы ВС. У сувязі з гэтым вырашана, што парламент вернецца да пытання аб галоўным рэдактары «Народнай газеты» пасля 15 кастрычніка — у гэты дзень Канстытуцыйны суд разгледзіць указы прэзідэнта, звязаныя з «НГ» на адпаведнасць Канстытуцыі.

*БелаПАН*

# Ні партбілета, ні кватэры

**У панядзелак, 30 верасня, на пленуме Мінскага гаркама ПКБ камуністы выключылі са сваіх шэрагаў ідэалагічнага дарадцу прэзідэнта Сяргея Посахава — «за арганізацыю дзеянняў па расколе партыі».**



*С.Посахаў.*

А не так даўно ў прэсе з'явілася інфармацыя, што палкоўнік Посахаў мяняе сваю гродзенскую кватэру на жыллё ў расійскім горадзе Пензе.

Падчас размовы з карэспандэнтам СВАБОДЫ прэзідэнцкі дарадца абверг гэтае паведамленне. Ён заявіў, што аддасць сваю прыватызаваную кватэру ў Гродне ў тым выпадку, калі *«прэзідэнт дасць новую ў Мінску».* Аднак на пытанне, калі гэта можа здарыцца, Посахаў чыстасардэчна прызнаўся: *«Не ведаю, можа, цяпер ужо ніколі. Мне нядаўна выдзелілі два невялікія пакоі ў інтэрнаце. Туды я і перавёз сваю сям'ю: жонку і сабаку»,* — сказаў палкоўнік.

Застаецца толькі паспачуваць работніку ідэалагічнага фронту: стольկі сіл патрацій на прэзідэнта — а кватэры так і не заслужыў. Больш таго, яшчэ і з партыі выгналі.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Кардынал спяшаецца

**На ўрачыстай інаўгурацыі першага епархіяльнага Сінода каталіцкай царквы ў Беларусі не абышлося без казусаў і сюрпрызаў.**

Сюрпрызам стала слова мітрапаліта Філарэта, які прывітаў прысутных па-беларуску.

А казус выйшаў, калі вядучы Сінода назваў айца Яна Сергія Гаека апостальскім адміністратарам для грэка-каталікоў Беларусі (г.зн. кіраўніком уніяцкай царквы). Аднак ніхто а.Яна Сергія Гаека пакуль што на гэтую пасаду не прызначаў. На сённяшні дзень пытанне аб кіраўніку Беларускай грэка-каталіцкай царквы (БГКЦ) застаецца адкрытым.

Найбольш прыймальнай фігурай вернікі лічаць кандыдатуру апостальскага візітатара для беларусаў грэка-каталікоў замежжа а.Аляксандра Надсана, які аднак мае грамадзянства Вялікабрытаніі. У свой час уніяты звярталіся да Папы Рымскага з просьбай пашырэння правоў а.Аляксандра Надсана як апостальскага візітатара для ўніятаў на замежжы і ў Беларусі. Айцец Аляксандр сам вырашаў бы пытанне аб прызначэнні кіраўніка БГКЦ. Аднак гэтыя просьбы засталіся без увагі. Маўчанне ў адказ атрымала ад Папы Рымскага ўніяцкае духавенства і вернікі на просьбы аб прызначэнні кіраўніка БГКЦ у асобе апостальскага адміністратара ці апостальскага экзарха.

Пакуль Апостальская сталіца маўчыць, польскі касцёл спрабуе прасунуць у кіраўнікі БГКЦ «свайго» чалавека, апостальскага візітатара а. Яна Сергія Гаека. Зразумела, што прызначэнне паляка (а не беларуса) на гэтую пасаду толькі адмоўна адаб'ецца на аўтарытэце БГКЦ.

На жаль, кардынал Казімер Свёнтэк катэгарычна забараніў выступленне на адкрыцці Сінода кіраўніка дэканата БГКЦ, протапрэсвітара а.Яна Матусевіча, спасылаючыся на тое, што ў каталіцкай царкве шмат дэканатаў і на кожнага не хопіць часу. Аднак жа дэканат БГКЦ мае функцыі часовай адміністрацыі на тэрыторыі Беларусі, а кіраўнік з'яўляецца адзіным часовым кіраўніком уніяцкіх парафій. Протапрэсвітар а.Ян Матусевіч адмовіўся каментаваць гэты казус на адкрыцці Сінода.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# «Прэзідэнт Беларусі імкнецца ажывіць савецкія метады»

*Артыкул пад такім загалоўкам апублікавала 30 верасня ўплывовая нью-йоркская газета Newsday*

*«Сярод кіраўнікоў былых савецкіх рэспублік Аляксандр Лукашэнка не адзіны прыроджаны кіраўнік аўтакратычнага складу з ярка выражанай нелюбоўю да дэмакратыі,* — піша газета. — *Аднак ён вылучаецца на агульным фоне. І не толькі жаданнем злучыцца з Расіяй, але і тым, што ён з'яўляецца антызаходнім, антыеўрапейскім кіраўніком дзяржавы, якая мяжуе з магчымай новай граніцай NATO»,* — падкрэслівае Newsday.

*«Раней усё было лепей, мяркуе прэзідэнт Беларусі. А цяпер у парламенце поўна здраднікаў і заходніх шпіёнаў, якія наладжваюць змову супраць яго»,* — іранізуе аўтар артыкула Сюзана Сакс.

Далей яна піша, як Лукашэнка вярнуў назад старую савецкую сімволіку, як выказваў захапленне нацысцкім «новым парадкам», забараняў дэманстрацыі, закрываў газеты... І нарэшце: 7 лістапада Лукашэнка хоча правесці рэферэндум, *«каб таранам увесці канстытуцыю, якая надасць яму амаль неабмежаваныя паўнамоцтвы»,* — адзначае Newsday.

*«Уважліва прачытайце яе* (новую канстытуцыю), — цытуе газета словы старшыні ВС Сямёна Шарэцкага, — *і вы ўбачыце, што гэта юрыдычная база таталітарнай фашысцкай дзяржавы».* Newsday прыводзіць таксама ацэнку самага вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава: *«Нам удалося ўцячы з камуністычнай таталітарнай турмы, а цяпер ён хацеў бы вярнуць туды зноў. Калі Лукашэнка атрымае тое, чаго дамагаецца, — свет у канцы XX стагоддзя будзе мець у цэнтры Еўропы аўтакратычную дыктатарскую дзяржаву фашысцкага тыпу».*

Аўтар артыкула звяртае ўвагу, што нядаўняя заява Дзярждэпартамента ЗША ў адказ на абвінавачванні Лукашэнкі, што заходнія дзяржавы дапамагаюць ягоным апанентам, была вытрыманая ў нязвыкла рэзкім тоне. Гэты факт, а таксама прадстаўленне палітычнага прытулку ў ЗША двум лідэрам апазіцыі паказваюць, як ставіцца Захад да рэжыму Лукашэнкі, лічыць С.Сакс.

У Расіі — адзінай краіне, якая магла б сур'ёзна паўплываць на сітуацыю, — рэакцыя неадназначная, піша Newsday. Але ўвогуле адміністрацыя Ельцына заплюшчвала вочы на выбрыкі Лукашэнкі. Некалі Ельцын сказаў Лукашэнку, што цеснае эканамічнае супрацоўніцтва магчымае толькі пры ўмове рынкавых рэформаў. Аднак Беларусь усё роўна застаецца інэртнай, хоць знаходзіцца на мяжы эканамічнага краху. Не будзе нічога дзіўнага, піша журналістка, калі Лукашэнка раптам захоча ўпісаць у Канстытуцыю асобны артыкул аб забароне прыватнай уласнасці ўвогуле. *«Беларускі парламент — большы прыхільнік рынку і рэформ, чым прэзідэнт»,* — прыводзіць словы С.Багданкевіча Newsday.

*«Шлях да дэмакратыі цярністы ва ўсіх краінах былога савецкага блоку,* — адзначае Newsday. — *Але здаецца, што Беларусь так і не зрушылася са стартавай пазіцыі; уражвае апатыя ў грамадстве».*

*«Гэтага чалавека лёгка зразумець, ён проста хворы,* — спасылаецца аўтар артыкула на словы С.Шарэцкага, адзначаючы, што многія называюць Лукашэнку псіхічна хворым. — *Па сваёй прыродзе ён разбуральнік. Ягоныя метады — шантаж і рэпрэсіі».*

Прэзідэнт, былы дырэктар саўгаса і камуністычны ідэолаг-інструктар, піша Newsday, называе сваіх апанентаў смеццем і ворагамі народа. Лукашэнка хоча ператварыць Беларусь у адзін вялікі калгас, і гэтая ідэя знаходзіць прыхільнікаў. Бо ў калгасе старшыня — цар, які кантралюе ўсе аспекты жыцця, а людзі больш-менш роўныя па маёмасці, і іх страшна раздражняе, калі нехта багацее, — характарызуе нашае грамадства амерыканская журналістка.

## Няма пра што гаварыць...

*З інтэрв'ю прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева польскай Gazecie Wyborczej*

«Калі б у свой час не ўзнікла Садружнасць незалежных дзяржаваў, то тэрыторыя былога СССР ператварылася б у поле ваенных бітваў. Таму нельга смяяцца і здзеквацца з СНД. Я хацеў бы, каб СНД ператварылася ў нешта накшталт Еўрапейскай супольнасці, у саюз сапраўды раўнапраўных дзяржаваў.

А Лукашэнка няхай сабе кажа, што хоча. Гэта ваш сусед — вам і галава балець павінна. Лукашэнка ёсць Лукашэнка, няма пра што гаварыць.»

# Ваўкі і авечкі

*Праблема палітычнага лідэрства ў Беларусі*

Нядаўна ў Брэсце пад эгідай Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) прайшоў першы семінар праграмы «Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі». Удзельнікі семінару — даследчыкі, палітыкі, журналісты — абмяркоўвалі палітычны аспект праблемы, тым самым вызначыўшы яго як прыярытэтны. Сапраўды, менавіта ў палітычнай сферы сённяшняга жыцця Беларусі найбольш адчуваецца неабходнасць і, на жаль, дэфіцыт яркіх, актыўных лідэраў. За «круглым сталом» семінара высветлілася, што, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, працэс фарміравання інстытута лідэрства ў Беларусі ўсё ж рухаецца наперад.

### З'яўленне лідэраў

Значэнне англійскага слова *leader* супадае з тым значэннем, якое і мы ўкладаем у гэты тэрмін: той, хто вядзе астатніх, першы. Між тым, палітолагі робяць слушную заўвагу, вызначаючы за лідэрам не толькі функцыю вядучага, але і таго, за кім пэўная група людзей прызнае права прымаць рашэнні. У гэтым сэнсе прэзідэнт, якога выбіраюць усеагульным галасаваннем — класічны лідэр. Той факт, што менавіта Лукашэнку дастаўся гэты гонар, даследчыкі тлумачаць, у першую чаргу, своеасаблівасцю беларускага электарата і палітычнай сітуацыяй. Навукоўцы адзначаюць, што ў Беларусі, у адрозненне ад іншых посткамуністычных краін, да ўлады не прыйшла новая эліта, а ўсяго толькі на змену старой партыйна-гаспадарчай наменклатуры (В.Кебіч і кампанія) заступіла новая генерацыя «маладых ваўкоў» — прагматычных, жорсткіх, дэідэалагізаваных (тыповы прыклад — Іван Ціцянкоў). Што ж да сапраўднай эліты, то яна толькі выспявае, бо пакуль няма сапраўднай дзяржавы — няма і сапраўднай нацыянальнай эліты.

Чаму менавіта Лукашэнка стаў лідэрам сярод лідэраў? Рэч не ў ім самім. Электарат не мог чакаць, пакуль у палітычным садку падрасце той, хто павядзе яго цывілізаваным шляхам да лепшага жыцця. Народныя сімпатыі сышліся на чалавеку, які быў пад рукой. Які першы ўзлез на плот вакол садка, крычаў з яго гучней за астатніх, прычым — яснымі словамі ды пры гэтым яшчэ рашуча размахваў рукамі. Акрамя таго, у нашым грамадстве быў вельмі развіты «вождизм» — гэта значыць чаканне правадыра і гатоўнасць даверыць яму свой лёс. Тлумачыцца такі феномен перш за ўсё дэфіцытам грамадскіх інстытутаў (няўрадавых арганізацый, партый, іншых недзяржаўных структур, у тым ліку эканамічных), камуністычнай спадчынай у свядомасці і гістарычным вопытам Беларусі, дзе на працягу двух стагоддзяў мэтанакіравана знішчалася нацыянальна актыўная частка мясцовай эліты.

### Як фарміруюцца беларускія лідэры

*«Сёння ў Беларусі фарміраванне лідэра агульнадзяржаўнага маштабу магчыма толькі пры дапамозе існуючых структур улады. Асноўнымі прычынамі гэтага з'яўляюцца манапалізацыя СМІ, неразвітасць недзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў і адсутнасць лідэраў першаснага ўзроўню з мінімальна неабходным асабістым аўтарытэтам»,* — так лічыць Станіслаў Багданкевіч. Цяжка не пагадзіцца з паважаным прафесарам, тым больш калі ён сам адчуў, што азначае «выпасці з дзяржаўнай калоды».



Прэтэндэнт на лідэрства.

Можна выдзеліць некалькі накірункаў, па якіх улада вядзе барацьбу з патэнцыйнымі прэтэндэнтамі на «карону». Па-першае, яны мэтанакіравана дыскрэдытуюцца. «Бавоўнавая справа» Генадзя Карпенкі, «ільготны крэдыт» які быццам бы «выбіў» сыну Станіслў Багданкевіч, «два мільёны долараў», а цяпер яшчэ і «кажух» Сямёна Шарэцкага — усё гэта правакацыі аднаго кшталту і, магчыма, аўтарства. Акрамя стралянiны па канкрэтных мішэнях, вядзецца прапагандысцкая апрацоўка ўсяго грамадства. Напрыклад, даследчыкі зрабілі кантэкст-аналіз шэрагу цэнтральных выданняў краіны і прыйшлі да высновы, што ў нас вядзецца мэтанакіраваная прапаганда супраць рынкавых і дэмакратычных каштоўнасцяў. Дзеля чаго — вядома. Штучнае замацаванне ў свядомасці людзей таталітарных мадэляў — найлепшая перашкода на шляху развіцця грамадзянскай супольнасці. Ва ўмовах, калі самай папулярнай застаецца ідэя «моцнай рукі» альбо калі на вышэйшым узроўні дыскрэдытуецца ідэя парламентарызму, канешне ж, не даводзіцца спадзявацца на высокі рэйтынг альтэрнатыўных палітыкаў.

У сённяшніх умовах стаць вядомым у Беларусі палітыкам — велізарная праблема. Менавіта таму ў нас вельмі часта назіраецца сітуацыя, калі рэйтынг лідэра значна саступае рэйтынгу арганізацыі. Напрыклад, згодна з вынікамі апытання, праведзенага сёлета ў траўні супрацоўнікамі НІСЭПД, рэйтынг ПКБ склаў 25,1%, у той час як лідэр партыі камуністаў Сяргей Калякін атрымаў толькі 5,5% падтрымкі; аграрная партыя мела 23,3%, а яе лідэр Сямён Шарэцкі — 12,5%; БНФ — 16,0%, Зянон Пазьняк — 8,7%; АГП — 14,4, Станіслаў Багданкевіч — 9,4%. Ва ўмовах, калі амплуа цудатворцы манапалізаваў кіраўнік дзяржавы, астатнія акцёры палітычнай сцэны ацэньваюцца па іншых крытэрыях, лічаць даследчыкі. Гэта перш за ўсё крытэрыі ідэалагічныя. Як бы ярка і самастойна ні паводзілі сябе далей Васіль Новікаў ці Сяргей Калякін, за імі заўсёды будзе цягнуцца камуністычны «шлейф». Гэтак сама, як Юрыю Хадыку наканавана застацца ў грамадскай свядомасці «нацыяналістам», а Станіславу Багданкевічу — «банкірам» і «капіталістам». Калі сённяшні *status quo* ў галовах электарата захаваецца яшчэ надоўга, то на рост папулярнасці партыйным лідэрам можна не спадзявацца. Новыя прэзідэнцкія выбары зноў выйграе альбо Лукашэка, альбо яшчэ больш таленавіты папуліст.

### «Ісці ў электарат»

Адзін з лідэраў аб'яднаных дэмакратаў Аляксандр Дабравольскі падзяліўся на семінары сваім вопытам працы з выбаршчыкамі. Дарэчы, ён перамог на выбарах двойчы: у апошні Вярхоўны Савет СССР і ў сённяшні парламент Беларусі. Прычым Дабравольскі быў адзіным дэмакратам, які здабыў мандат мінулай восенню ў першым туры. Галоўную ўвагу Дабравольскі надае такой рэчы, як перавод каштоўнасцяў свабоднай рынкавай эканомікі на мову, якую разумее электарат. З вопыту Дабравольскага, трэба не проста ведаць памкненні электарата, але разбірацца і ў міфах, якімі забітыя галовы выбаршчыкаў. Дэпутат прыводзіць такую лічбу: 82% нашых суайчыннікаў лічаць, што не яны асабіста, а ўрад краіны павінен несці адказнасць за іх дабрабыт. Калі ж на канкрэтных прыкладах паказаць людзям, што многае ўжо цяпер залежыць менавіта ад іх саміх, то інакш успрымаюцца і ўсе іншыя праблемы. Але галоўнае, сцвярджае дэпутат, растлумачыць простую рэч: каб жыць так, як у развітых краінах, нельга галасаваць, як у нас. Дабравольскі ўпэўнены, што данесці гэтую ідэю сённяшнія палітыкі і дэпутаты могуць — нават калі іх не пускаюць на тэлебачанне. Можна ж праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі па абмеркаванні канкрэтных з'яваў, арганізоўваць тэлефонныя апытанні, рассылаць выбаршчыкам лісты з прапановай паведаміць аб сваіх праблемах і г.д.

Вядома, поспех лідэра будзе залежаць ад таго, наколькі ён практычна карысны электарату. Дарэчы, беларускі прэзідэнт выдатна гэта зразумеў і ўвесь час дэманструе, нібыта ён аб кімсьці канкрэтна клапоціцца. І хоць звычайна ён папросту адбірае грошы ў адных і аддае іх другім — сам прынцып працы з электаратам вельмі слушны. На якія б глабальныя мэты ні нацэльваўся грамадскі лідэр, галоўнай часткай ягонага поспеху будзе цікавасць да мясцовых, канкрэтных справаў. Тут галоўнае забяспечыць як мага шырэйшую рэкламу добрага ўчынку.

### Што мы маем у Беларусі?

Карціну жыцця сённяшняй беларускай эліты і асноўных тэндэнцый, характэрных для гэтай групы, намаляваў на семінары ў Брэсце доктар гістарычных навук, прафесар Уладзімір Снапкоўскі. Згодна з даследаваннямі, якія праводзіліся ў рамках праекта «Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі», сёння лідэрскія пазіцыі маюць 8 грамадскіх груп. Чатыры з іх — дырэктарскі корпус, войска, супрацоўнікі міліцыі і КДБ, якія займалі верхнія прыступкі сацыяльнай лесвіцы і ў камуністычныя часы, — сваё становішча больш-менш захавалі. У параўнанні з савецкімі часамі відавочна страцілі пазіцыі былая партыйна-гаспадарчая наменклатура, работнікі ваеннапрамысловага комплексу і ўсе, хто неяк быў звязаны з таварным дэфіцытам (работнікі сістэмы гандлю і размеркавання). Наперад вырваліся прэзідэнцкая вертыкаль і журналісты, а таксама павялічылі свой рэйтынг бізнесмены і дэпутаты (раней журналісты і дэпутаты былі ў аўтсайдэрах эліты, а «бізнесмены» ўвогуле сядзелі за кратамі). Між тым даследчык адзначае, што працэс фарміравання лідэрскіх груп і грамадскіх лідэраў не завершаны. Значны патэнцыял для росту яшчэ маюць бізнесмены, а вось вайскоўцы і супрацоўнікі міліцыі, здаецца, свой рэсурс ужо вычарпалі.

Тыповы вобраз прадстаўніка ўлады, атрыманы ў выніку даследаванняў, вельмі характэрны. На думку апытаных, гэты «прадстаўнік» схільны больш за ўсё да жульніцтва (так лічаць 45%), ён неразборлівы ў сродках дасягнення мэты (34%), у яго нізкі ўзровень культуры (34%), яму ўласцівы авантурызм (32%) і нежаданне працаваць сумленна (31,5%). Гэтыя вынікі трэба сунесці з фактам, што ў вачах грамадскасці самыя першыя пазіцыі сярод элітных груп займае прэзідэнцкая вертыкаль. Атрымліваецца цікавая характарыстыка нашага электарата: ён вельмі лаяльны да ўлады, асабліва да жорсткага лідэра, што дзіўным чынам спалучаецца з недаверам да начальства і прававым нігілізмам. Папулярна кажучы, большасць выбаршчыкаў упэўненая, што наверсе крадуць, але калі б яны самі там аказаліся, то рабілі б тое самае.

З пачатку года група экспертаў штомесяц вызначае 50 найбольш уплывовых палітыкаў Беларусі. Гэтыя звесткі рэгулярна друкаваліся як у незалежнай, так і ў дзяржаўнай прэсе, таму няма патрэбы іх цытаваць. Адзначым толькі, што першае месца ў спісе з вялікім адрывам нязменна займае А.Лукашэнка (цяпер 48%). Звернем увагу і на такія асаблівасці гэтага спісу: пераважная большасць у ім — прадстаўнікі выканаўчай улады. Гэта значыць — людзі, якія выбіліся ў лідэры за кошт не столькі асабістага аўтарытэту, колькі аўтарытэту пасады. У прадстаўнікоў незалежных ад дзяржавы структураў месцы вельмі сціплыя, хоць менавіта яны павінны прэтэндаваць на ролю нефармальных лідэраў. Са шкадаваннем можна падкрэсліць, што дзеячоў культуры і навукі ў сённяшнім спісе вядучых палітыкаў Беларусі ўвогуле няма. Слабыя пазіцыі займае ў эліце дэпутацкі корпус, тым часам дастаткова высокі рэйтынг (пачынаючы з ліпеня) маюць прадстаўнікі такой непарламенцкай партыі, як БНФ. Яшчэ адна істотная тэндэнцыя: кансалідацыя эліты. Заўважана, што склад 50 вядучых палітыкаў амаль не змяняецца: штомесячныя ваганні не вышэй за 8 чалавек, дый тыя потым звычайна вяртаюцца ў ганаровы спіс.

Гэта, як сцвярджае прафесар У.Снапкоўскі, з'яўляецца добрай прыкметай. Атрымліваецца, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, да Беларусі таксама можна аднесці тэзіс французскага палітолага Ж.Бландэля, які сцвярджаў: лідэрства — гэта пазітыўны фактар у грамадстве і адзін з асноўных інструментаў яго трансфармацыі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*У артыкуле выкарыстаныя матэрыялы, падрыхтаваныя Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Беларусь) і Цэнтрам міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва (ЗША).*

СВАБОДА
4 кастрычніка 1996 г., № 75

Сяргей ДУБАВЕЦ

# «Пятая калона»

## Электарат Лукашэнкі — што гэта і адкуль?

*(Заканчэнне, пачатак у № 71)*

### Літоўскі след

Але спачатку згадаем усю тагачасную сітуацыю, калі толькі што рухнула Імперыя Зла — Савецкі Саюз.

Тады кіраўнічыя кампартыі былых саюзных рэспублік зрабілі крок да ідэалогіі нацыянал-камунізму, стварылі ўмовы для ўзнікнення народных франтоў. У адказ на гэта часткі кампартый «на платформе КПСС» — як правіла, партапаратчыкі, якія яшчэ «ненабыліся», — пачалі збіраць інтэрфранты, якія, у сваю чаргу, абапіраліся на савецкую армію і нядаўнастворany АМОН.

Так у кожнай савецкай рэспубліцы ўзнікала сітуацыя двоеўладдзя. З аднаго боку — нацыянал-камуністы, народныя франты, вярхоўныя саветы і новыя структуры нацыянальнага войска, паліцыі, апалчэння; з другога — платфармісты, інтэрфронт, савецкае войска і АМОН. Вага і сіла першых імкліва расла паўсюль, дзе нацыі дасягнулі сталасці. Другія аганізавалі, збіралі мітынгі савецкіх ветэранаў і пенсіянераў, на якія прыходзіла ўсё менш людзей, учынялі каварныя забойствы. З часам нацыі перамаглі гэтых асірацелых дзяцей імперыі, і большасць з іх мусіла легалізавацца ў тых краінах, супраць якіх яны выступалі. Астатнія — хто награшыў найболей, мусілі ўцякаць або ў Расію, або ў Беларусь.

Рэжым Лукашэнкі стаў своеасаблівым рэваншам платфармістаў, інтэрфрантоў, гэбістаў і амонаўцаў — зборнай «пятай калоны» з усіх саюзных рэспублік — у адной асобна ўзятай краіне. Ґэты рэжым нічым не адрозніваецца ад тых, што на час захапіў уладу ў Вільні 13 студзеня 1991 г. Там душылі танкамі людзей, якія баранілі Вярхоўны Савет, у Мінску — білі і выносілі дэпутатаў з Авальнай залы. СМІ Лукашэнкі — нібы зборная газета «Литва Советская» (якая, дарэчы, у 1991 годзе друкавалася ў Мінску) або так званая «каспервізія» (тэлебачанне, якім кіраваў палкоўнік Каспяравічус). Асноўныя характарыстыкі знаёмыя з мураўёўскіх часоў: ганьбаванне ўяўнага «ворага», настальгія па СССР, непрафесіяналізм, убоства думак і пачуццяў, няведанне нацыянальных традыцый і культуры. Дыктарамі на «каспервізіі» працавалі не прафесійныя журналісты, а фрэзероўшчык і член ЦК КПЛ, парторг калгаса і асабістая сакратарка галоўнага платфарміста М.Бураквічуса.

Не дзіва, што ўсе стваральнікі «Литвы Советской» і «каспервізіі» пасля жнівеньскага 1991 года путчу апынуліся ў Беларусі. Вось некалькі прозьвішчаў:

**Станіслава Юонене** — галоўны рэдактар газеты «Тарыбу Летува» — галоўнага органа платфармістаў. Друкавалі орган у выдавецтве ЦК КПБ. Апошні нумар выйшаў «назаўтра» — 20 жніўня 1991 г. Пасля, па звестках газеты *Lietuvos Rytas*, «Тарыбу Летуву» яшчэ спрабавалі «ажывіць» у Мінску. Сама С.Юонене, адна з актыўных арганізатараў інтэрфронту «Единство», член ЦК КПЛ (КПСС) пасля ўцёкаў у Мінску працавала ў В.Чыкіна, у ягонай газеце «Мы и время» вяла старонку, прысвечаную Літве, падпісвалася — Валянціна Жукоўская. Праваахоўныя органы Літвы і сёння шукаюць яе за антыдзяржаўную дзейнасць. Але ёй спакойна, ужо больш за два гады яна жыве ў Барысаве, працуе і атрымлівае пенсію.



У мінскай газеце «Товарищ» працуе яшчэ адзін уцякач — былы старшыня савета сакратароў партарганізацый саюзных прадпрыемстваў Вільні **Уладзімір Антонаў.** Адзін з найбольш актыўных баявікоў 13 студзеня **Святаслаў Супруноў,** які з'яўляецца на захопленай віленскай тэлевежы ў фільме А.Няўзорава з павязкай «Наши» на руцэ, таксама перабраўся ў Мінск. Яшчэ адзін «герой» — **Валеры Дударык** — былы сакратар партарганізацыі радыё і тэлебачання, якая была створана для атрымання грошай з Масквы на тэле- і радыёвяшчанне з захопленых студый, «отличился», пакідаючы захопленыя будынкі — пры разбоі і нішчэнні каштоўнай тэлеапаратуры, — таксама схаваўся ў Беларусі.

Што ў тыя дні рабіў КГБ Літвы? Па-першае, узмоцніў сваю ахову. У будынку ўвесь час дзяжурыла рота памежнікаў. Па-другое, паліў і вывозіў агентурныя дакументы і спецапаратуру. Па-трэцяе, рыхтаваўся да баёў. Гэтай падрыхтоўкай кіраваў **Яўген Дзямід** — супрацоўнік аддзела па барацьбе з арганізавай злачыннасцю. Пасля ўсяго і Дзямід таксама з'ехаў у Беларусь.

Фактычна служба бяспекі (як і нацыянальная армія) у Літве была створана нанова — без пераймання чэкісцкіх традыцый. У Беларусі да сёння з часоў Сталіна КГБ не змяніўся — ад назвы да штату і метадаў працы. Дастаткова сказаць, што беларускі КГБ — адзіны з аналагічных арганізацый усяго былога саюза, які дагэтуль не адкрыў для грамадскасці свае архівы па сталінскіх рэпрэсіях і дысідэнцкім руху пасляваеннага часу...

Яшчэ цікавей — з грашыма літоўскай «пятай калоны», якія ўсе атрымліваліся з Масквы, а пасля пераехалі ў Беларусь.

Каб атрымліваць грошы, платфармісты стварылі спецыяльную асацыяцыю свабодных прадпрымальнікаў Літвы, якая была зарэгістраваная ў Маскве. У асацыяцыю ўвайшоў і прадстаўнік фінансавай структуры КПЛ (КПСС) — кіраўнік камерцыйнага банку ў Новай Вілейцы (раён Вільні) **Аляксей Мішакоў.** Праз 10 дзён пасля абвяшчэння незалежнасці Літвы 21 сакавіка 1990 года пастановаю саўміна СССР статус гэтага банка быў зменены — ён стаў банкам СССР у Літве. Летам 1991-га банк атрымаў з Масквы 280 млн. рублёў. Грошы прызначаліся на подкуп літоўскіх прадпрыемстваў: банк браў меншыя працэнты, але з умовай, што атрымальнік крэдыта ўступіць у асацыяцыю.

Пасля жнівеньскага путчу 1991 г. пад аховай амонаўцаў, разам з усім кіраўніцтвам, грашыма і дакументамі гэты банк перабраўся ў Беларусь і абаснаваўся ў Астраўцы, у памяшканнях перасоўнай механізаванай калоны №73.

Сучасныя беларускія ценевікі з ліку былых камсамольскіх важакоў і афіцэрства выдатна знаходзяць агульную мову з сваімі літоўскімі «калегамі». Напрыклад, у ноч на 30 траўня 1995 г. у Салечніцкім раёне Літвы была затрыманая кантрабанда цыгарэт на трэць млн. даляраў, якую гналі з Беларусі ў Літву. Цыгарэты належалі фірме былога сакратара ЦК ЛКСМ Літвы **Валерыя Макеева.**

А ў Віцебску адкрыў сваю гандлёвую фірму **В.Швед** — былы другі сакратар платфармістаў, галоўны трыбун партыі.

Сярод найбольш заўважных «экспартных» агентаў Масквы — адзін з галоўных арганізатараў забойстваў ля Віленскай тэлевежы **Уладзімір Усхопчык,** камандзір дывізіі, дыслакаванай у Вільні. Пасля ўцёкаў у Беларусь ён стаў тут генерал-лейтэнантам, камандзірам арміі. Мінулым летам пра яго казалі як пра кандыдата на пасаду міністра абароны РБ.

Вывозіліся з Літвы ў Беларусь не толькі грошы. Многія віленскія «інтэры» трэніраваліся на базе АМОНа і ўзбройваліся для дыверсійнай дзейнасці. Зброі хапала. «Рабочыя дружыннікі» часта захоўвалі яе ў бяспечным месцы — у Беларусі. У літоўскай прэсе называюцца, напрыклад, прозвішчы **А.Смоткіна,** які вывез зброю да бацькоў у Полацак, і **А.Шорахава,** які хаваў боезапасы таксама ў Беларусі. Можна меркаваць, што гэта далёка не адзінкавыя выпадкі. Каму сёння служаць тыя аўтаматы, гранаты і міны — невядома.

Увогуле перасяленцаў з Літвы ў Беларусь за мінулыя гады пераехалі тысячы. Гэта іх справа. Яны вярталіся ў «СССР» — краіну, якой ужо не было, і ў мінулы час, які затрымаўся на нашай «буфернай тэрыторыі». Таму няма сэнсу называць усіх. Публічнае ўвагі заслугоўваюць толькі тыя, хто рэальна нашкодзіў у суседняй незалежнай дзяржаве, хто кіраваў «пятай калонай» і, што самае істотнае, працягнуў свае намаганні ў нас, у Беларусі.

Справа не толькі ў канкрэтных прозвішчах, а ў сутнасці самога «чалавечага матэрыялу», які ніколі нічога не стварае, а трымаецца толькі на дэмагогіі, каварстве і сіле. Паколькі светапогляд гэтых людзей пачынаецца з вызначэння ворага, таму і ўся іх дзейнасць скіраваная на барацьбу, падрыў, разбурэнне таго асяроддзя, у якое трапляе «пятая калона».

У кабінетах улады РБ, тыя платфармісты, інтэрфронтаўцы, амонаўцы, якія нашкодзілі ў краінах, адкуль прыехалі, адчулі сябе, як дома. У нас яны адразу прыжыліся і актыўна ўключыліся ў грамадскае жыццё. Многія з іх былі запрошаны ў апарат Лукашэнкі, у ягоныя шматлікія падраздзелы бяспекі.

Асаблівая шкоднасць гэтых людзей для краіны, у якой яны разгортваюць сваю дзейнасць, палягае ў тым, што, паводле прызнання газеце *Lietuvos Rytas* аднаго былога спецыяліста КГБ, менавіта гэтыя людзі найлепшым чынам умеюць арганізаваць сістэму карупцыі.

Улады РБ з асаблівай сімпатыяй прымалі ўцекачоў з Літвы і нават самі ініцыявалі іх прыезд да нас. Арышт у Мінску 15 студзеня 1994 г. і выдача літоўскім уладам Буракявічуса і Ермалавічуса на агульным фоне выглядае непаразуменнем. Але гэта быў перыяд Шушкевіча.

Ужо пры Лукашэнку РБ узяла пад апеку ідэолага літоўскіх платфармістаў **Кучарава.** Кучараў быў арыштаваны і сядзеў у Лукішскай турме ў Вільні, калі ні з пушчы ні з поля яму звалілася беларускае грамадзянства. Кажуць, у камеру да Кучарава прыходзіў сам часовы паверны ў справах Беларусі ў Літве Уладзімір Шчасны і ўгаворваў таго прыняць беларускае грамадзянства. Маўляў, «так нам будзе лягчэй вас выцягнуць». Пасля таго, як Кучараў даў згоду, РБ адкупіла ў Літвы «свайго» грамадзяніна, заплаціўшы за яго 5 тысяч долараў ЗША, і той пераехаў у Мінск.

Вядома, такі гуманізм і шчодрасць вартыя ўхвалы. Але колькі такіх кучаравых улазяць ужо ў нашы ўладныя структуры і ўжо ў іх бяруцца за сваю звыклую справу — падрыў з сярэдзіны маладой незалежнай краіны! Чым, напрыклад, заняўся ў Менску сам Кучараў?

Ён зарэгістраваў сваё членства ў кампартыі Беларусі, актыўна ўключыўся ў працу антыбеларускай суполкі «Славянскі сабор» і стварыў філію гэтай маскоўскай арганізацыі пад назвай «Белая Русь». «За тое, што цяпер ён на волі, прафесар найперш удзячны Бразаўскасу і Лукашэнку», — піша *Lietuvos Rytas*.

Сёння літоўскія партсакратары, «інтэры», гэбісты і падобная публіка ўжо не псуюць жыццё незалежнай Літвы. Яны аселі ў Беларусі і тут выяўляюць сваю актыўную жыццёвую пазіцыю. У Літве, адкуль выгналі гэтых дзяцей імперыі, патроху наладжваецца нармальнае жыццё, пра якое беларускія прапагандысты даюць толькі крывую або і ўвогуле хлуслівую інфармацыю. Напрыклад, Лукашэнка не раз казаў пра бядотны стан сельскай гаспадаркі ў Літве, дзе «развалілі калгасы». Занадта мала беларускага народу бывае сёння ў літоўскай вёсцы, каб пераканацца, што гэта чыстая хлусня. Ёсць праблемы, але калі паказчыкам дабрабыту вёскі лічыць не захаванне калгасаў, а наяўнасць у крамах шырокага асартыменту якасных айчынных прадуктаў, то... Беларусі са сваімі калгасамі да сучаснай Літвы далёка.

Яшчэ пасля путча ў Беларусь пераехаў кандыдат на пасаду міністра ўнутраных справаў у платфармісцкай Літве **Уладзімір Шэін.** У Мінску ён узначальваў камітэт па вызваленьні Кучарава. Шэін, дарэчы, таксама ўваходзіў у інтэраўскую асацыяцыю прадпрымальнікаў, а натхняльнікам і генератарам гэтай асацыяцыі быў загадчык сацыяльна-эканамічнага аддзела ЦК КПЛ (КПСС) **Я.Прохараў,** які таксама пасля путча выехаў у Беларусь.

### Гібрыд Альендэ з Піначэтам

**Цяпер мы ведаем, адкуль узяўся электарат Лукашэнкі.** Гэта не нацыя, не грамадства і нават не беларускі народ, а гістарычна выгадаваная «пятая калона». Адпаведна і Лукашэнка — не ўсенародна выбраны прэзідэнт, а толькі лідэр «пятай калоны».

Небяспека не ў тым, што Лукашэнка такі, які ён ёсць, бо ён і сам — плён сітуацыі. Небяспека ў тым, што яму няма альтэрнатывы. Няма другога такога публічнага палітыка, які б гатовы быў стаць лідэрам нацыі і грамадства. Няма такога ў БНФ, у ВС, і нават у камуністаў. Адсюль такія дружныя галасы апазіцыі за парламенцкую рэспубліку — фактычнае ўхіленне ад барацьбы.

Менавіта безальтэрнатыўнасць Лукашэнкі можа стаць прычынаю крайнасцяў — фашызацыі рэжыму. Усе раптам здрабнелі вакол гэтага монстра, які спалучае ў сабе рысы левага папуліста Альендэ і правага выканаўцы Піначэта, г.зн. розных публічных палітыкаў. У Лукашэнку нібы зліліся Пазьняк і Калякін (адсюль гэтыя гібрыды — «рынкавы сацыялізм», «праваслаўны атэізм» і г.д.). І нам самы час высветліць прычыны такой безальтэрнатыўнасці.

### Дзе нашы палітыкі?

У пачатку 1980-х беларускі нацыянальны рух выйшаў на паверхню ў выглядзе фальклорных суполак. Моладзь змагалася за помнікі гісторыі і адраджэнне Каляд у гарадах. Па сутнасці гэта быў непалітычны рух. Усё ішло па нейкай зададзенай каляіне, дзе не мусілі гадавацца публічныя палітыкі, лідэры і функцыянеры партый. Культурніцкая арыентацыя была прадвызначана.

Прыклад соцень беларускіх палітыкаў XX стагоддзя, якія змагаліся за беларускія нацыянальныя інтарэсы, а ўрэшце, аказвалася, служылі чужым імпэрыям, — гэтыя прыклады нарадзілі своеасаблівы сіндром беларускага патрыёта.

Яшчэ ў 1970-я гады група беларускай інтэлігенцыі (якая пазней і інспіравала рух моладзі) вырашыла адмежавацца ад працы ў галіне правоў чалавека і адкрытага антыкамунізму, і займацца чыста культурніцкай дзейнасцю. Так у найноўшым часе быў закладзены прынцып дэпалітызацыі руху.

У тыя гады лічылася, што дастаткова маскоўскіх дысідэнцкіх груповак, хельсінскіх камітэтаў і праваабаронцаў.

Наколькі гэта было разумнае рашэнне — хай мяркуюць яго ініцыятары. Але цяпер ясна, чаму ў нас такія недаразвітыя партыі, якія ствараліся не ў савецкім падполлі, а ўжо на паверхні «перастройкі», і чаму няма альтэрнатывы Лукашэнку.

### Рэферэндум

Прэзідэнт Лукашэнка пераможа на рэферэндуме ў сваёй Рэспубліцы Пятай Калоне (РПК). Што будзе далей? Стагнацыя і большае ці меншае «спрашчэнне дэмакратыі» — г.зн. большая ці меншая дыктатура.

Вернецца агульны затхлы фон жыцця — так знаёмы з савецкіх часоў. Ён ужо вяртаецца. У апазіцыі ў такіх умовах ёсць толькі два варыянты паводзінаў. Першы — падацца ў эміграцыю, і тым самым «закрыць пытанне» незалежнай краіны Беларусі. Бо ў такім выпадку РБ канчаткова ператорыцца ў РПК, і само жыццё далучыць яе да Расіі, дзе яшчэ ёсць падобныя адсталыя тэрыторыі-губэрні з паўдыктатарскімі рэжымамі (напрыклад, Арлоўская). Альбо — другі варыянт — пачынаць вельмі жорсткую і, магчыма, доўгую барацьбу з рэжымам за сваю Бацькаўшчыну.

Трэба памятаць асноўнае: пераемнасці ўлады не будзе. Пераемнасць можа быць толькі ад Лукашэнкі да другога Лукашэнкі, ад аднаго лідэра пятай калоны да другога. І так, як Лукашэнка адрынуў пераемнасць ад ранейшае ўлады, так мусіць быць адрынуты і ён. А гэта можа быць толькі ў выніку выгнання агентуры чужой краіны і будавання сваёй дзяржавы.

Вось толькі куды іх выганяць, калі іх радзіма — у гісторыі, якая ўжо скончылася? Калі іх ужо і павыганялі адусюль — менавіта да нас?..

Разам з іншымі рэспублікамі мы атрымалі незалежнасць, але, у адрозненне ад іншых, мы не вызваліліся ад «пятай калоны». З кожным днём гэтае вызваленне вымагае ўсё большае волі і ўсё больш рашучых захадаў.

Галоўнае пытанне новага рэферэндуму — не канстытуцыя, не смяротная кара і не зямля. Усе гэтыя рэчы можна і трэба змяняць у рабочым парадку, бо пры нармальнай дэмакратыі ўсё гэта — прэрагатыва ўладаў краіны. Галоўнае пытанне — гэта фактычная адмена Дня незалежнасці.

Такія даты не бяруцца з паветра. Дзень незалежнасці — разам з сімволікай і мовай — гэта атрыбуты незалежнай дзяржавы, якія сведчаць усяму свету, што такая дзяржава ёсць. Паказальна, з якім размахам адзначаюць Дзень незалежнасці ва Украіне, Арменіі, Літве... Адмаўляючы гэтую канкрэтную дату, Лукашэнка прапануе не лічыць **гэтую** незалежнасць заваёвай і адмовіць самую дзяржаву РБ. Гэта значыць, што рана ці позна Беларусі давядзецца заваёўваць сваю незалежнасць зноў.

Лукашэнка давяршае працэс вяртання Беларусі ў стан саюзнай рэспублікі. А гэта значыць, што краінатворчы працэс рана ці позна прывядзе да адмаўлення самога лідэра «пятай калоны» Лукашэнкі. І — без пераемнасці.

## Субота 12 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 Новости.
8.15 «Созвучие».
8.35 «Судьба моя и надежда».
9.05 Здоровье.
9.35 Уроки Н.Новожиловой.
10.05 Хоккей. Кубок Европы. «Полимир» (Новополоцк) – «Кренгольм» (Нарва,Эстония).П. 2, 3.
11.15 Все про все.
11.45 «Карлсон вернулся». Мульт.
12.05 Многоголосие.
12.35 Мир природы и увлечений.
12.55 С.Моэм. «Боже, храни короля!» Спект.
13.40 Коллаж.
14.10 С.Моэм. «Боже, храни короля!» Ч. 2.
15.50 История любви».
16.10 Творцы.
16.25 «Приглашаем на вечерки».
17.00 Гандбол. Кубок чемпионов. Женщины. «Политехник» (Минск) – «Монтекс» (Люблин, Польша).
18.25 К Дню матери.
18.45 Белорусский дом.
19.10 V Международный фестиваль искусств «Славянский базар-96».
20.40 Колыбельная.
21.00 Новости.
21.45 Музыкальный антракт.
22.00 Х/ф «Джонни-красавчик» .
23.40 Видимо-невидимо.
0.40 Концерт «Рок после каникул-96».

**ОРТ**
7.00 Х/ф «Дежа вю».
8.45 Домашняя библиотека.
9.00 Новости.
9.10 Слово пастыря.
9.30 Не зевай!
10.00 Утренняя почта.
10.35 Смак.
10.55 Возвращение Третьяковки.
11.20 «Игумен земли Русской».
11.40 Х/ф «Ночной мотоциклист».
12.50 Театр + TV.
13.30 Под знаком «Пи».
14.00 Новости .
14.20 «Возвращение на Остров сокровищ».
15.10 «Реальное кино». «Прибытие поезда», «Счастье».
15.50 Америка с М.Таратутой.
16.20 «Колесо истории».
17.00 Новости.
17.20 В мире животных.
18.05 Х/ф «Зимний вечер в Гаграх».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 «Вьетнам. До востребования».
21.40 «Каламбур».
22.10 Х/ф «Мертвец».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.30 «Эй, ухнем!»
7.40 «Мак и Матли».
8.05 Пилигрим.
8.30 По вашим письмам.
9.00 Ваш партнер.
9.15 Парламентская неделя.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Тележурнал «Здоровье».
10.30 Доброе утро.
10.55 Мультфильм.
11.05 21-й кабинет.
11.30 Анонимные собеседники.
12.00 «Поэт в России – больше, чем поэт».
12.25 Проще простого.
13.00, 19.00, 22.50 Вести.
13.20 «Тайна Сахары». Х/ф. С. 1.
14.15 Ничего, кроме...
14.30 Де факто.
14.55 Сад культуры.
15.25 Своя игра.
15.55 Футбол. Чемпионат России.
18.00 «Королева Марго». С. 10.
19.35 Субботний вечер на конкурсе «Мисс Европа»-96.
20.55 Погода на завтра.
21.00 Двойной портрет.
21.55 «Открытые новости».
23.05 Программа «А».

**Санкт-Петербург**
9.25 По реке плывет топор.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Информ ТВ.
10.10 «Честь имею».
10.40 «Без названия».
11.10 Ток-шоу «Наобум». А.Собчак.
11.40 Страсти-мордасти.
12.10 В.Баснер. «Это было недавно, это было давно...»
12.35 «Под липой». Телеспектакль.
14.10 По всей России.
14.25 «Мы вернулись».
14.45 Усадьбы.
15.10 Спортивное обозрение.
15.25 Парадоксы истории.
16.10 «Хотланта»-диксиленд.
16.40 Детское ТВ: Студия «Вообрази».
17.05 Зебра.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Большой фестиваль.
19.25 «Я люблю». Х/ф.
20.25 Экспресс-кино.
20.55 Светская хроника.
21.10 Блеф-клуб.
21.50 Круговорот.
22.00 Роман с героем.
22.25 «Приключения принца Флоризеля». С. 3.

**IV канал, НТВ**
7.00 Х/ф «Чудесные годы» .
7.50 «Черный осьминог».
8.45 Латиномания.
9.00, 13.00 Сегодня.
9.15 Х/ф «Неистовое правосудие».
12.10 Д/ф «Военачальники. Эрвин Роммель. Фельдмаршал германской армии».
12.40 Доктор Угол.
12.45 Русский альбом. Группа «Мегаполис».
13.15 Мини-сериал «Преступник поневоле».
14.40 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Японии. Квалификация.
15.40 Шаг из круга.
16.00 Новости кино.
16.25 Ток-шоу «Карьера».
17.00 «Горец».
17.30 Дог-шоу «Я и моя собака».
18.00, 21.00 Сегодня.
18.30 «Криминальная Россия: современные хроники».
19.00 Мини-сериал «Преступник поневоле».
20.00 Намедни.
20.45 Куклы.
21.35 Премия «Оскар». «Кинг Конг».
23.55 Третий глаз.
0.50 Ночной канал.»Плейбой».

## Нядзеля 13 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 «Голоса минувшего».
8.25 К Дню матери.
8.40 «Конон».
9.05 Вершина мира.
9.20 Студия «Колыбельная».
10.05 «Все нормально, мама!»
10.25 Туробъектив.
10.45 Международный курьер.
11.15 Студия «Окно».
12.00 Телевизионный Арт-клуб.
12.35 «Осенняя ярмарка-96» в Минске.
13.20 Сельчане.
13.55 «Золотые ключи».
14.40 Вершина мира.
15.05 «Время ее сыновей». Х/ф.
17.25 Хоккей. Кубок Европы. «Полимир» (Новополоцк) – «Торпедо» (Усть-Каменогорск).П.2, 3.
18.40 Компьютерный полигон.
19.05 Бездельник.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Спортивный телекурьер.
21.10 Новости-ТВ.
21.25 Ток-шоу «Карамболь».
22.00 Х/ф «Марыся и Наполеон».
23.50 Бархатный сезон.

**ОРТ**
7.00 Фильм «Попутного ветра, «Синяя птица».
8.30 Мультфильм «Золотая антилопа».
9.00 Новости.
9.15 «Непутевые заметки»
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 Служу России!
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 Провинциальные истории.
12.30 Сериал «Подводная одиссея команды Кусто».
13.25 Смехопанорама.
14.00 Новости .
14.20 Леонид Коган. «Мгновения жизни и славы...».
15.15 Клуб путешественников.
16.00 Как-то раз.
16.15 Мультфейерверк.
16.55 «Один на один».
17.25 Счастливый случай.
18.15 «Лучшие песни о любви».
19.00 Время.
19.50 Х/ф «Харлей Дэвидсон и ковбой Мальборо».
21.45 Футбольная панорама.
22.15 Новости.
22.25 Фильм «Голубой крест».

**Канал «Россия»**
6.55, 8.10 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Японии.
8.00 Спортлото.
9.00 Устами младенца.
9.30 Присяга.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Русское лото.
10.55 Приз группы «Савва».
11.00 Человек на Земле.
11.25 Мультфильм.
11.35 Книжная лавка.
12.00 Телетеатр. Ю.Казаков. «Арктур – гончий пес».
12.25 Проще простого.
13.00, 23.15 Вести.
13.20 «Тайна Сахары».
14.15 Ничего, кроме...
14.30 Диалоги о животных.
14.55 Караоке по-русски.
15.25 Кумиры.
16.10 Футбол без границ.
16.40 «У всех на устах».
17.00 Волшебный мир Диснея.
17.55 Еврокоптер: вертолет и спасатели.
18.00 «Королева Марго». С. 11.
19.00 Зеркало.
19.55 Погода на завтра.
20.00 Репортаж ни о чем.
20.15 Х/ф «Старики-разбойники».
21.50 «Абзац».
22.45 У Ксюши.
23.30 Репортер.
23.45 Виниловые джунгли.

**Санкт-Петербург**
9.25 Папа, мама и я – спортивная семья.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ.
10.10 Овертайм.
10.35 «Посланник Папы в Марибо». Т/ф.
11.10 Храм.
11.40 Весь этот цирк.
12.10 «Дон Кихот». Х/ф.
13.45 Мультфильм.
14.10 Еще одна Россия.
15.10 Шедевры русской хореографии.
16.10 Спортивная программа.
16.35 Детское ТВ: «Полосатая музыка», Сказка за сказкой.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Сокровища Петербурга.
19.20 «Сама невинность». Х/ф.
21.10 Ноу смокинг.
21.55 Международное обозрение.
22.25 «Мужчина легкого поведения». Х/ф.

**IV канал, НТВ**
7.00 Х/ф «Чудесные годы» .
7.50 Сериал «Любовные узы-1».
8.45 Латиномания.
9.00, 13.00 Сегодня.
9.15 Х/ф «Большие воздушные гонки».
12.25 Д/ф «Военачальники. Эрвин Роммель. Фельдмаршал германской армии».
12.50 Доктор Угол.
13.15 «Преступник поневоле».
14.05 Намедни.
14.45 Куклы.
16.05 Домашние питомцы.
16.25 Подъем переворотом.
17.00 «Горец».
17.30 Телеигра «Сто к одному».
18.00 Сегодня.
18.30 «Человек в маске».
19.10 «Исчезнувшие цивилизации».
20.00 Итоги.
21.10 Х/ф «Кинг Конг жив».
23.05 Звезды мирового кино в Москве.
23.40 Лучшие шоу и варьете мира. «Грандиозный Мулен Руж».

# Худзець ці таўсцець?

**У апошні час медыкі ва ўсім свеце назіраюць дзве супрацьлеглыя з'явы. З аднаго боку, хутка расце лічба людзей з лішняй вагой. З другога — сярод моладзі і нават дзяцей развіваецца сапраўдная манія пахудзення.**

Як паведамляе *Reuter* са спасылкай на даследаванні *Rowett Research Institute,* за апошнія 50 гадоў колькасць брытанцаў, якія маюць лішнюю вагу, вырасла ўвая. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, то да 2200 года 100% жыхароў Вялікабрытаніі будуць таўстунамі — і сённяшняе ўяўленне пра жыхароў туманнага Альбіёну як пра высокіх хударлявых людзей канчаткова адыдзе ў нябыт.

З другога боку, аналіз, праведзены навукоўцамі універсітэта ў горадзе Лідс, паказвае, што сярод маладых дзяўчат расце імкненне быць худымі. Ужо нават дзевяцігадовыя дзяўчынкі імкнуцца мець тонкую фігуру — такую, як... у іхніх лялек. У сярэднім брытанскія школьніцы хочуць важыць на 11% менш. Аднак паказальна, што пра фігуру дбаюць пераважна худыя, стройныя дзяўчаты, а іх поўныя каляжанкі не надаюць гэтаму значэння. Гэтаксама і хлопцы: большасць брытанскіх школьнікаў або не задумваюцца над праблемай вагі, або нават хацелі б паправіцца — у сярэднім на 12%.

Прыведзеная статыстыка датычыць Велікабрытаніі, аднак праф. Філіп Джэймс, які сур'ёзна даследаваў гэтую праблему, сцвярджае, што лішняя вага і «пахудзенне худых» — глабальныя тэндэнцыі, якія заўважаюцца не толькі ва ўсёй Еўропе і ЗША, але нават і ў краінах трэцяга свету.

Даволі распаўсюджанай з'яўляецца думка, што тоўстыя людзі — вясёлыя, дабрадушныя і прыветлівыя. Аднак даследаванні генетыкаў паказваюць, што гэта не заўсёды так.

Лішняя вага — гэта не заўсёды вынік празмернага апетыту і нізкай фізічнай актыўнасці. Схільнасць да «магутнай» фігуры можа быць запраграмаваная біялагічна, калі ў генным наборы чалавека так званы ген *OB* падвяргаецца зменам. Апошнія вынікі даследаванняў амерыканскіх вучоных, апублікаваныя ў часопісе *Molecular Psychiatry,* паказваюць, што гэты самы ген уплывае і на псіхіку людзей. У тоўстых людзей часта развіваюцц анеўрозы і дэпрэсіі, абумоўленыя «кепскім» генам, і яны слаба паддаюцца лячэнню. Асабліва выразна гэта праяўляецца ў жанчын. А ў мужчын празмерная вага нярэдка спалучаецца з цяжкімі формамі алкагалізму.

Разам з тым адчайвацца не варта: той жа ген *OB* станоўча ўплывае на волевыя якасці асобы. А той, у каго моцная сіла волі, можа пераадолець і вагу, і цягу да спіртнога, і дэпрэсію. Галоўнае — захацець і настроіцца.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Клуб таўстуноў у Германіі

**Канцлер Германіі Гельмут Коль адмовіўся ўступіць у створаны некалькі месяцаў таму нямецкі клуб таўстуноў.**

Стваральнікі гэтай грамадскай арганізацыі спадзяваліся, што асоба канцлера надасць клубу аўтарытэтнасці. Мэта клубу — весці барацьбу з дыскрымінацыяй тоўстых людзей. Статыстычныя даследаванні паказваюць, што чалавеку, які мае лішнюю вагу, у два разы цяжэй атрымаць высокааплатную працу (асабліва гэта датычыць жанчын), таўстуны сутыкаюцца з паважнымі праблемамі і пры стварэнні сям'і. У Германіі, дзе харчаванне таннае, а традыцыйным напоем з'яўляецца піва, тоўстых людзей шмат — па розных ацэнках, лішнюю вагу маюць да 40% дарослых немцаў.

І ўсё ж Гельмут Коль, чыя вага з'яўляецца дзяржаўнай таямніцай, далікатна адхіліў прапанову ўвайсці ў клуб. Відаць, яму больш даспадобы роля лідэра ўсіх немцаў — а не толькі тоўстых.

**У.А.**

## АФІША

Канцэртная афіша наступнага тыдня задаволіць практычна любога меламана — ад прыхільнікаў року і поп-музыкі да аматараў класікі або бардаўскай песні.

### КАНЦЭРТЫ

У Палацы культуры прафсаюзаў пройдуць канцэрты Нацыянальнага фестывалю бардаўскай і самадзейнай песні «Менск-96». Летась ужо праходзіў такі фестываль, і публіка мела магчымасць ацаніць прынцып ягонай арганізацыі: гэта не конкурс, а хутчэй серыя аўтарскіх канцэртаў вядомых бардаў, такіх, як Андрэй Мельнікаў, Лера Сом, Вальжына Цярэшчанка, Зміцер Бартосік, Віктар Шалкевіч. Выступяць і дэбютанты, а таксама госці фестывалю — рускамоўныя выканаўцы і Стас Трызубы з Івана-Франкоўска. Канцэрты адбудуцца **7, 9** і **10** кастрычніка, пачатак кожнага а 19-й гадзіне, уваход вольны.

У Канцэртнай зале філармоніі **9** кастрычніка ў 19 гадзін выступіць Мінскі аркестр духавых інструментаў «Няміга». Спадзеючыся, што восень яшчэ парадуе нас цёплымі сонечнымі днямі, музыканты падрыхтавалі надзвычай радасную, светлую праграму з твораў еўрапейскіх і амерыканскіх кампазітараў XX ст. Гэта будзе лёгкая музыка і трошкі джазу. Выступіць «Брас-квінтэт» пад кіраўніцтвам В.Волкава, прагучаць творы і аранжыроўкі гэтага вядомага музыканта. У праграме таксама італьянскія песні ў выкананні саліста опернага тэатра Г.Палішчука. Дырыжор — Пётр Вандзілоўскі.

Цікавыя праграмы прапануе Зала камернай музыкі: **5** кастрычніка прагучаць камерныя творы Бетховена, Брамса і Шастаковіча, а **8** кастрычніка адбудзецца канцэрт артыстаў народнай вакальнай студыі Палаца культуры прафсаюзаў, якой кіруе заслужаны артыст Беларусі Ф.Севасцьянаў.

На канцэрт «ДДТ», які адбудзецца ў канцэртнай зале «Мінск» **9** кастрычніка а 19-й гадзіне, прыйдуць людзі розных пакаленняў: знакамітаму гурту ўжо 15 год. Як вядома, Юрый Шаўчук не вельмі любіць, калі публіка скандыруе «Юра, «Осень»!» і без ахвоты пяе заезжаныя старыя хіты. Але на гэты раз юбілейная праграма абяцае «самыя папулярныя песні за ўсе гады існавання групы». Адносна танныя квіткі (па 200 тыс. рублёў) ужо раскупленыя, але трапіць на канцэрт можна і за 360—400 тыс. рублёў.

Прыхільнікі расійскай эстрады з нецярплівасцю чакаюць прыезду Валерыя Меладзэ, які выступіць таксама ў канцэртнай зале «Мінск» **10** кастрычніка. Праграма поп-зоркі называецца «Апошні рамантык». Пачатак у 19 гадзін, квіткі каштуюць ад 100 да 300 тысяч рублёў.

### ТЭАТРЫ

Адкрыўшыся пасля летняга перапынку, набіраюць сталы рытм работы мінскія тэатры. Рускі тэатр прэзентуе ў асноўным спектаклі па п'есах замежных аўтараў: **4** кастрычніка «Мадам, месье і...», **5** кастрычніка — «Свабодны шлюб», **6** кастрычніка — «На залатым возеры», **9** кастрычніка — «Адзіны спадкаемца», **10** кастрычніка — «Ад'ютантка ягонай вялікасці».

У тэатры імя Янкі Купалы традыцыйна пераважаюць камедыі: **4** кастрычніка «Таполевая завея», **5** кастрычніка — трагікамедыя «Умовы дыктуе жанчына», **6** кастрычніка — «Ажаніцца — не журыцца», **7** кастрычніка — «Паехалі!», **9** і **10** кастрычніка — «Ідылія». На малой сцэне тэатра **4** і **5** кастрычніка прэм'ерныя паказы «Чайкі».

У Тэатры оперы і балета **5** кастрычніка «Яўген Анегін», **6** кастрычніка — «Травіята», **8** кастрычніка — «Візіт дамы». У нядзелю **6** кастрычніка пройдзе таксама дзіцячая опера «Кот у ботах» (пачатак у 11:30).

Прэм'еру прадстаўляе Тэатр лялек: у суботу і нядзелю, адпаведна **5 і 6** кастрычніка, маленькіх гледачоў запрашаюць на новую імпрэзу «Казка пра рыбака і рыбку». Пачатак у 10:30 і 12:30. Акрамя таго, на наступным тыдні ў тэатры «Прыгоды Бураціна ў краіне дурняў» (**4** кастрычніка), «Мышаня Мыцык» (**8** кастрычніка), «Тое самае сланяня» (**9** кастрычніка) і вечаровы спектакль «Прывіды ў калядную ноч» (**10** кастрычніка).

### ВЫСТАВЫ

Выставачныя залы Мінска запрашаюць пазнаёміцца з мастацтвам самых розных накірункаў: галерэя «Медэя» (Дом афіцэраў) прадстаўляе жывапіс і традыцыйнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Паўночнай Карэі (цяпер — КНДР), Нацыянальны мастацкі музей паказвае скарбы сваіх фондаў — творы рускага мастака другой паловы XIX ст. Уладзіміра Макоўскага, знакамітага майстра лірычных і камічных сцэнаў. Палац мастацтваў запрашае на выставу Георгія Лойкі. Гэты жывапісец не так даўно быў прызнаным прадстаўніком рэалістычнага накірунку, але нечакана звярнуўся да беспрадметнай формы, і даволі ўдала авалодаў ёю, у чым і пераконвае выстава.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

# Народнага паэта любяць прэзідэнты

**1 кастрычніка ў Доме літаратара сабраўся сапраўдны бамонд, каб шчыра павіншаваць з 60-гадовым юбілеем народнага паэта Беларусі Генадзя Бураўкіна.**

Аказалася, што Генадзь Мікалаевіч ужо 20 гадоў сябруе з Аляксандрам Карагіным, прэзідэнтам Саюза прадпрымальнікаў Беларусі. Яны пазнаёміліся на БАМе, і тады Бураўкін здзівіў будучага прэзідэнта бізнесменаў тым, што не піў «горкую» і не чытаў вершы «на біс».

А вось прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Літвы Ёнас Весулас, відаць, не ведаў гэтага і ў якасці падарунка паднёс пааэту велізарную бутэльку гарэлкі. Выказаў свае сяброўскія пачуцці прэзідэнт Амерыканскай дабрачыннай арганізацыі *City Hope International!* Пол Мор. Любоў і павагу да Генадзя Бураўкіна засведчылі дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, Станіслаў Багданкевіч і не менш народныя паэты Васіль Зуёнак і Ніл Гілевіч. На вечарыне прысутнічалі Уладзімір Ганчарык, старшыня Беларускага савета прафсаюзаў, намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў, саветнік пасольства Украіны ў Беларусі Валянціна Лешчанка.

Зала ледзь змясціла ўсіх, хто прыйшоў на сустрэчу з паэзіяй. У зале было шмат моладзі. Дарэчы, самі вершы Генадзя Бураўкіна выклікалі мацнейшыя апладысменты, чым вядомыя песні на яго-ныя словы.

Так шанавалі паэта і ідэю, якой ён служыць усё жыццё. У зале ўзнімаўся бел-чырвона-белы сцяг, а самае частае пажаданне гучала прыкладна так: *«Жыве Беларусь! А разам з ёй Генадзь Бураўкін!».*

**Валерыя АСІПЕНКА**

# Эстонскі прыклад – лепшы

**У Гродне адбылася рабочая сустрэча кіраўнікоў фондаў культуры памежных з Беларуссю краін — Польшчы, Літвы, Латвіі, Расіі.**

Не было толькі прадстаўніка Украіны, затое жаданне прыняць удзел у сустрэчы выказаў эстонскі бок. Удзельнікі падпісалі дагавор аб намерах, пагадзіўшыся, што існуе неабходнасць ажыццяўляць супольныя праекты.

Абмяркоўваліся таксама праблемы дзейнасці фондаў культуры ў гэтых краінах. Аптымальным прызнаны досвед эстонцаў. Іхні фонд рэгулярна праводзіць латэрэі, а заробленыя грошы выдае на канкрэтныя праекты або фінансуе асобных творцаў. Такім чынам у Эстоніі практыкуецца, па сутнасці, прызнаная ў свеце сістэма выдачы грантаў. Летась у гэтай невялікай краіне была аказана падтрымка розным творчым ініцыятывам на суму 100.000 долараў.

**С.А.**

СПОРТ

# У Пеле – двойня

### ШАХМАТЫ: АЛІМПІЯДА ФІНІШАВАЛА

У сталіцы Арменіі Ерэване скончылася XXXII сусветная шахматная Алімпіяда. Нягледзячы на складаную ўнутрыпалітычную сітуацыю, гаспадары бліскуча справіліся з яе арганізацыяй. Пераможцамі трэці раз запар сталі мужчынская зборная Расіі, на чале з чэмпіёнам свету Гары Каспаравым і жаночая зборная Грузіі, у якой на першай дошцы гуляла экс-чэмпіёнка свету Мая Чыбурданідзе, а на другой — фіналістка мінулых чэмпіянатаў Нана Іаселіяні.

Расіяне ў 14 турах набралі 38,5 ачка з 56 магчымых, значна апярэдзіўшы грасмайстараў Украіны — 35 ачкоў і Англіі — 34. 34 ачкоў і ў амерыканцаў, але ў іх горшыя дадатковыя паказчыкі. Беларускія шахматысты ў 13-м туры перамаглі трэцюю каманду Арменіі (гаспадары выставілі тры калектывы), а ў заключным з такім жа лікам саступілі кітайцам. Вынік — 30,5 і месца ў канцы трэцяй дзесяткі побач з калегамі з Туркменістана. На папярэдняй Алімпіядзе нашыя сталі прыкладна на 20 ступеняў вышэй.

У жаночым турніры следам за грузінкамі — 30 ачкоў — узышлі на п'едэстал кітаянкі і расіянкі — па 28,5 з 42 магчымых. Беларускі ў перадапошнім туры атрымалі буйную перамогу над шахматысткамі Босніі і Герцагавіны — 2,5:0,5, а ў апошнім саступілі камандзе В'етнама — 1:2. 22 ачкоў хапіла толькі для таго, каб займець месца ў чацвёртай дзесятцы з 82 калектываў (у мужчын у спаборніцтвах прымала ўдзел 127 каманд). І дзяўчаты нашыя таксама апусціліся месцаў на 20—25.

У не вельмі ўдалага выступлення беларусаў некалькі прычын. Гэта і салідны, па шахматных мерках, узрост паловы мужчынскай каманды — трое (Дыдышка, Купрэйчык і Мачалаў) — старэйшыя за 45 год, і адсутнасць надзейнай запасной у жанчын — 16-гадовая Сарокіна яшчэ не гатовая гуляць на такім узроўні. Акрамя таго, шахматысты нашыя былі экіпіраваныя не лепшым чынам (гаворка ідзе пра камп'ютэры). Не ўсё гладка і з дзіцяча-юнацкімі шахматамі.

Але ёсць і нагода парадавацца. Лідэр беларускіх шахматаў Барыс Гельфанд у 10 партыях ні разу не прайграў, праўда, выйграў толькі двойчы. Моцна гулялі маладыя грасмайстары Аляксей Аляксандраў і Юрый Шульман. Першы на другой дошцы набраў 6,5 з 11, а другі — на трэцяй — 7 з 10. У жанчын вызначылася Генрыета Лагвілава — 8 з 12.

### БІЯТЛОН: У САШУРЫНА ЗНОЎ БРОНЗА

Новы від спорту — летні біятлон. У адрозненне ад зімняга, спартсмены тут проста бягуць крос з вінтоўкай за плячыма, але таксама, як і зімою, страляюць на агнявых рубяжах. У Аўстрыі адбыўся першы чэмпіянат свету па летнім біятлоне. Зноў, як і на снезе Германіі, лепшым з беларусаў стаў Вадзім Сашурын. На 10-кіламетровай дыстанцыі са стральбой на 4 агнявых рубяжах ён заняў трэцяе месца. Пры гэтым апошнія паўтара кіламетра Вадзім прабег напалову босы — згубіў красовак. Лепшая з нашых дзяўчат Святлана Парамыгіна ў бегу на 6 км была дзявятай.

### ВАЛЕЙБОЛ: ФРАНЦУЖАНКІ ЗДАЛІСЯ

У адборачным матчы чэмпіянату свету жаночая зборная Беларусі перамагла ў Гродне саперніц з Францыі — 3:1 (17:15, 10:15, 15:11). Цяпер у нашых — дзве перамогі ў трох гульнях, столькі ж у францужанак. Лідзіруе ж каманда Румыніі — 3 ачкі з 4, а замыкаюць табліцу югаслаўскія дзяўчаты, якія прайгралі ўсе чатыры матчы.

### ГАНДБОЛ: НАШЫЯ ПЕРАМАГАЮЦЬ

У адборачным матчы чэмпіянату свету супраць каманды Ізраіля зборная Беларусі дабілася ў Мінску пераканаўчай перамогі з лікам 35:19.

### ФУТБОЛ: «ДЫНАМА» ЗНОЎ ЛІДЭР

Халодным дажджлівым надвячоркам у панядзелак мінскія дынамаўцы перамаглі землякоў з «Атакі-Аўры» і абышлі на адно ачко мазырскі МВКЦ. Такім чынам — дынамаўцы ўзначальваюць турнірную табліцу. Трэці раз у сезоне зрабіў хет-трык Уладзімір Макоўскі — новая зорка беларускага футбола.

### ХАКЕЙ: ЧЭМПІЯНАТ У.Е.Х.Л.

Чарговыя матчы праведзеныя ў чэмпіянаце Усходнееўрапейскай хакейнай лігі. «Цівалі» (Мінск) — «Энергія» (Літва) — 5:1, 8:2; «Алімпія» (Польшча) — «Юнацтва» (Мінск) — 5:3, 3:2; «Палімір» (Наваполацк) — «Нёман» (Гродна) — 6:2, 5:3.

| | Г | А |
|---|---|---|
| 1. «Палімір» | 6 | 12 |
| 2. «Цівалі» | 6 | 11 |
| 3. «Нёман» | 6 | 8 |
| 4. «Сокал» | 4 | 8 |
| 5. «Алімпія» | 6 | 5 |
| 6. «Льдзінка» | 4 | 4 |
| 7. «Юнёрс» | 4 | 0 |
| 8. «Юнацтва» | 6 | 0 |
| 9. «Энергія» | 6 | 0 |

### ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА: НЯСТОМНАЯ ЦУХЛО

У трэці раз выйграла Варшаўскі марафон мінчанка Алена Цухло. 42 км 195 м яна прабегла па вуліцах польскай сталіцы за 2 гадзіны 37 хвілін 48 секунд.

### З ЖЫЦЦЯ ЗОРАК

Легендарны футбаліст і надзвычайны міністр па справах спорту Бразіліі Эдсан Арантэс ду Насімэнту, болей вядомы як вялікі футбаліст Пеле, у 55 гадоў стаў бацькам мілых блізнятак. Аднак Пеле асабліва задаволены тым, што ўпершыню ў жыцці здолеў прысутнічаць пры нараджэнні сваіх дзяцей. Яго-ная 36-гадовая жонка Асірыя падаравала свайму мужу дачку Селестэ і сына Джошуа. Немаўляткі нарадзіліся семімесячнымі, але небяспекі для іхняга здароўя няма. «Я ніколі ў жыцці не бачыў моманту нараджэння сваіх дзяцей. Гэта самая значная падзея ў маім жыцці, нават у параўнанні з тым, што я ў 16 год стаў чэмпіёнам свету», — заявіў Пеле журналістам. Раней у яго нарадзілася чацвёра дзяцей: трое ад першай жонкі і пазашлюбная дачка.

**Сямён ПЛОЦ**

# Пойдзем у суд бараніць таварыша

**Арганізацыя Свабоднага прафсаюза мінскага завода аўтаматычных ліній збіраецца абараняць у судзе 54-гадовага Віктара Стрыкава, які ўжо 32 гады працуе гальванікам на гэтым прадпрыемстве.**

Рэч у тым, што 24 верасня ён быў моцна збіты супрацоўнікамі пазаведамаснай аховы Партызанскага РАУС. Па словах В.Стрыкава, калі ён ішоў дамоў, яго спынілі два ахоўнікі, сілай запіхнулі ў асобны пакой прахадной і пачалі здзекавацца. Яны абвінавацілі Стрыкава, што ён нібыта раней часу пакінуў працоўнае месца. Асаблівай жорсткасцю вызначыўся начальнік каравула. Ад калецтва рабочага выратавалі патрульны нарад міліцыі, які прыехаў на месца здарэння па званку вахцёркі.

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ старшыня арганізацыі свабоднага прафсаюза завода Міхась Водчыц, гэта ўжо не першы выпадак, калі ахова збівае рабочых. Аднак адміністрацыя прадпрыемства звычайна заплюшчвае вочы на выхадкі ахоўнікаў. *«Мы стварылі арганізацыю Свабоднага прафсаюза на заводзе — і цяпер менавіта мы павінны бараніць годнасць і грамадзянскія правы работнікаў прадпрыемства. Таму па згаданым факце мы падалі заяву ў пракуратуру і звярнуліся ў суд»,* — сказаў М.Водчыц.

**Валодзя ЯНЧУК**

# У Альберціне – уніяцкі крыж

**У Альберціне, на ўскрайку Слоніма, усталяваны каваны крыж, прысвечаны памяці айцоў-уніятаў, якія жылі тут у 1923-42 гадах.**

Спробы аднавіць на Слонімшчыне дзейнасць грэка-каталіцкай царквы аднолькава непрыхільна ўспрымаліся спачатку польскімі, потым савецкімі і нямецкімі ўладамі. Лічыцца, што апошні з альберцінскіх святароў, Антон Неманцэвіч, быў замардаваны фашыстамі; дакладна ягоны лёс невядомы.

Крыж разам з пастаментам мае вышыню каля трох метраў. Ён пастаўлены на пляцоўцы паміж касцёлам і царквою, якія сёння дзейнічаюць. Адбылося набажэнства і асвячэнне крыжа. У цырымоніі ўдзельнічалі пілігрымы з Полацка і Гродна.

**С.А.**

# І ў турме можна замольваць грахі

**У Віцебскай працоўнай калоніі для непаўналетніх злачынцаў адкрылася капліца.**

Гэтая капліца прыпісаная да Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора. Адміністрацыя турмы выдзеліла спецыяльнае памяшканне, дзе будуць праходзіць набажэнствы. Асвяціў яго епіскап Віцебскі і Аршанскі Дзмітрый. А з часам на тэрыторыі «зоны» мяркуюць пабудаваць сапраўдную царкву: пад яе падмурак ужо закладзены першы камень. Дарэчы, за апошнія паўтара года каля 100 непаўналетніх зняволеных калоніі прынялі абрад хрышчэння.

Як паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ ў міністэрстве ўнутраных справаў, сёння амаль ва ўсіх турмах Беларусі існуюць рэлігійныя асяродкі або невялікія царкоўкі.

**Анатоль МІРСКІ**

# Верасень – час падарожжаў

**У верасні гэтага года беларускую мяжу перакрочыла 1,5 мільёна чалавек. Нашую краіну наведала 300 тысяч іншаземцаў.**

Гэтыя звесткі рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала ў прэс-цэнтры памежных войскаў. У тым жа верасні беларускія памежнікі затрымалі 339 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы і прапусцілі праз кардон 391 тысячу грузавікоў, легкавікоў і матацыклаў, якія на канцылярскай мове называюцца «транспартнымі адзінкамі». Акрамя таго, кожны дзень у рукі памежнікаў траплялі кантрабандысты — усяго 62 выпадкі за месяц. У даход дзяржавы сканфіскавана 8 тыс. долараў і 14 тыс. нямецкіх марак, а таксама ажно 40 кг наркотыкаў і 7 адзінак зброі. Праўда, што будзе рабіць дзяржава з гашышам і пісталетамі — не паведамляецца.

**В.В.**

# Падтрымкі не было

**Сход бацькоў дзяцей-інвалідаў у Магілёве скончыўся не тым, чаго хацелі ўлады.**

Бацькі сабраліся, каб абмеркаваць пытанні сацыяльнай дапамогі, якая з боку дзяржавы сёння проста мізэрная. Мясцовыя вертыкальшчыкі паспрабавалі тут жа атрымаць чарговую «ўсенародную» падтрымку прэзідэнта. Але чыноўнікі не здолелі паабяцаць бацькам нічога істотнага — і ўсё скончылася толькі незадаволенымі выказваннямі ў бок улады.

**Іван ЗАСАДА**

# Прафсаюз расце

**Магілёўскія камерсанты масава ўступаюць у Свабодны прафсаюз.**

Падчас нядаўняга візіту ў Магілёў міністр А.Сазонаў усяляк стараўся пераканаць, што сённяшняя палітыка дзяржавы надта спрыяе развіццю прадпрымальніцтва. Але бізнесмены не надта давяраюць дзяржаве. Па словах старшыні Магілёўскай арганізацыі СПБ С.Абадоўскага, сёння *«колькасны рост прафсаюза ідзе ў геаметрычнай прагрэсіі».*

**І.З.**

# Калі бацькі не вераць...

**У школах Асіповічаў шырока ладзяць палітінфармацыі.**

Папулярная ў даперабудовачныя часы форма ідэалагічнай апрацоўкі дзяцей адраджаецца напярэдадні рэферэндуму. Мэта відавочная: калі бацькі не вераць «бацьку» — няхай паслухаюць апрацаваных дзетак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

УКРАІНА

# Дайце зброю журналісту

**Украінскі цэнтр «Свабода слова» звярнуўся да міністра ўнутраных справаў Украіны Юрыя Краўчанкі з прапановай выдаваць журналістам дазвол на валоданне зброяй.**

Прычынай такога звароту стаў факт, калі днямі ў Кіеве двое невядомых збілі палітычнага агляадальніка радыё «Свабода» Віктара Беразанца ў ягонай уласнай кватэры. У звароце цэнтра «Свабода слова» падкрэсліваецца, што прымяненне фізічнай сілы да журналістаў становіцца небяспечнай тэндэнцыяй у сучасным грамадстве. Дазвол на нашэнне зброі «стане выкананнем палажэнняў Канстытуцыі Украіны аб праве кожнага абараняць сваё жыццё і здароўе», адзначаецца ў дакуменце, накіраваным на імя міністра.

*УНІАН — БелаПАН*



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод — 47.450)
Нумар падпісаны ў друк 03.10.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2818